

# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

ГОД 3 | ВОСЕНЬ 2003 г. | № 2/5

## САБОР БАПЦ

30-га жнівеня г.г. у царкве Жыраўскае Іконы Божае Маці ў Гайлэнд Парку, у штаце Нью Джэрсы, адбылася выдатная падзея ў жыцьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы - Ейны Надзвычайны Сабор.

Сабор быў над-, ці нязвычайны не адно таму, што зьехаўся ня ў вызначаны статутам рэгулярны тэрмін, але яшчэ больш дзеля таго, што перад ім стаяў выбар пастановаў аб далейшым існаваньні нашае Царквы - Ейны заняпад у падзеле, ці магчымасьць аздараўленьня ды росьцьвіту праз задзіненьне.

З Божай дапамогай Сабор узыйшоў на шлях, што абяцае нармалізацыю царкоўнага жыцьця ды стварае магчымасьці мацнейшае ўсьведамляльнае дзейнасьці за аўтакефалію й у змаганьні супраць падманаў пад імём БАПЦ на Беларусі.



Прэзыдыюм Сабору. Зьлева направа: інж. Сяргей Трыгубовіч - сакратар, а. архімандрыт Карп Стар, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, а. Ігар Якунін і а. Вячаслаў Логін.

Шлях гэты няпросты й нялёгкі, бо шмат страчана й не асягнута праз падзел, але ён адзіна правільны перад Богам і Беларускім народам.

За Божае прыяньне ў працы Сабору й прыйме ім карысных нашай Царкве пастановаў перад ягоным пачаткам, а 10-й г. раніцы, быў адпраўлены малебен.

Усьлед пад старшынствам Першагерарха БАПЦ Я.М. Мітрапаліта Ізяслава пачаўся разгляд запрапанаваных у парадку дня справаў.

Першай зь іх было дабраньне складу прэзыдыюм Сабору, у якое увайшлі а. архімандрыт Карп Стар, айцы Вячаслаў Логін і Ігар Якунін, ды сп. Сяргей Трыгубовіч як сакратар.

Наступным пытаньнем была правамоцнасьць Сабору, што была пацьверджаная асабістай і праз пісьмовыя ўпаўнаважаньні прысутнасьцяй абсалютнае большасьці прадстаўнікоў ад парахвіяў і ўпраўненых да ўдзелу ў Саборы ўрадаўцаў кіраўнічых царкоўных ворганаў.

Паколькі з ухвалы Я.М. Мітрапаліта Ізяслава дамоўленасьць аб задзіненьні была асягнутая раней, пытаньняў у гэтай справе ня было, і Сабор адразу праслухаў справаздачы зь дзейнасьці успомненых ужо кіраўнічых ворганаў.

Усьлед ад кіраўнікоў, ці прадстаўнікоў парахвіяў былі праслуханыя інфармацыі аб дзейнасьці й стане ўсіх парахвіяў БАПЦ; за няпрысутных весткі падалі сябры кіраўнічых царкоўных ворганаў.

Із справаздачаў вынікла, што, хоць амаль ува ўсіх парахвіях парахвіяльнае жыцьцё йдзе здавальняюча, у некатарых ёсьць вострая патрэба духавенства і новае зьмены вернікаў.

Пасьля дыскусыі над справаздачамі Сабор разгледзеў і ўхваліў зьмены Статуту БАПЦ, накіраваныя на датарнаваньне да сучаснае сытуацыі й удакладненьне тэксту.

Адной з ухваленых зьменаў ёсьць папраўлены на "Belarusan Autocephalous Orthodox Church" назоў Царквы на ангельскай мове.

Далей Сабор выбраў новую Раду БАПЦ, у якую апрача дзейнага духавенства, ад вернікаў увайшлі: Юры Азарка, Юры Васілеўскі, Расьціслаў Гарошка, Барыс Данілюк, Надзея Дробіна, Руслан Качаткоў, Якуб Сапяжынскі, Аляксандар Сільвановіч і Сяргей Трыгубовіч.

Далей, пасьля выбару Кантрольнае камісыі ў складзе: Валеры Дворнік - старшыня, Віктар Дубяга й Юры Чарнышоў - сябры, Сабор разгледзеў і ухваліў тэкст звароту да праваслаўных беларусаў у дыяспары й на Бацькаўшчыне, а таксама рэзалюцыю, ў якой сьцьверджана, што Аляксандар Салагуб ня ёсьць япіскап БАПЦ.

Апрача гэтага Сабор ухваліў тэкст прывітаньня Усяленскаму Патрыярху Варфаламею І-му.

Нарады Сабору былі зачыненыя малітвай.

Сьледам адбылося паседжаньне Рады БАПЦ, на якім у склад Кансысторыі пад старшынствам Я. М. Мітрапаліта Ізяслава былі выбраныя а.а. Ігар і Вячаслаў, ды Барыс Данілюк, як сакратар, Сяргей Трыгубовіч - скарбнік, а Расьціслаў Гарошка й Аляксандар Сільвановіч - сябры.

Дзякуючы Богу за добрыя вынікі Сабору, жадаем новай Радзе й Кансысторыі БАПЦ Божага прыяньня ў працы на дабро нашае Сьв. Царквы.

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

Апошняй падзеяй у жыцьці нашае парахвіі, празь якую мы пісалі ў папярэднім нумары, быў удзел у адправе ў нядзелю, 2-га сакавіка, Паўночна-Амэрыканскага Валійскага Хору й запускавы пачастунак з гэтае нагоды.

Два тыдні пазьней пачаўся Вялікі пост і парахвіяльнае жыцьцё павярнулася ў бок духовае й гаспадарчае падрыхтоўкі да Вялікадня.

У Вербавую нядзелю, паводле царкоўнага звычаю, былі асьвячаныя вербы, якія ўжо гадамі нарыхтоўвае сп. Віктар Лосік, за што яму вялікі дзякуй.

Дзякуй і нашым парахвіянкам, што перад вялікім сьвятам старанна пачысьцілі й прыбралі царкву ды, парахвіяльную залю.

У чацьвер вечарам на цярпенным тыдні, як і належыць, была адправа з чытаньнем 12-ці Явангельляў, а ў пятніцу вячорня, да якое, як і кожны год, Госпадаў гроб прыгожа прыбрала кветкамі Сястрынства.

На Вялікодных адправах у царкве маленькікаў было больш як калі й амаль усе яны уважліва дачакаліся канца ўрачыстае Божае службы, каб асьвяціць выкладзеныя ў гожых кашолках пасхі.





На верхнім здымку: а. Ігар асьвячвае пасхі,
на споднім: супольнае парахвіяльнае разгавеньне.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі Сястрынства прыгатавала багаты вялікодны стол, за які, каб разгавецца звычнымі з Бацькаўшчыны, а ня ўсюды даступнымі ў Амэрыцы прысмакамі, засела ладная грамада парахвіянаў.

Як і заўсёды, пры пачастунку пачуліся родныя песьні, у чым завадатарам была нашая кіраўнічка царкоўнага хору, сп-ня Ліда Кано.

За прыгатаваньне смачнага пачастунку і гэтым разам вялікая падзяка сп-ву Мікалаю й Зоі Вашкевічам, а таксама сп-ням Алене Бараноўскай і Аляксандры Лістоўскай, што ім дапамагалі.

Пасьля Вялікадня нашыя прыяцелі амэрыканцы узноў пасадзілі ў гародчыку перад царквою кветкі, а сп-ня Марыя Данілюк крыху пазьней узбагаціла кветныя градкі яшчэ большай колькасьцяй густоўна выбраных і пасаджаных кветак.

На Сёмуху, царква, паводле звычаю, была прыбраная зеляняй, а пасьля ўрачыстае Божае Службы Сятрынства ўзноў адзначыла вялікае сьвята пачастункам, за якім прыемна прайшоў час.

Гэтым разам падзяка за прыгатаваньне страваў, апрача сп-ва Вашкевічаў, належала сп-ням Алене Бараноўскай і Галіне Губа.

Праз наступныя два летнія месяцы нічога, апрача нядзельных адправаў ды гутарак пасьля іх пры кубку кавы ў парахвіяльнай залі, не адбывалася, але Парахвіяльная Рада й Сястрынства ўжо рыхтаваліся да 3-га Беларускага Фэстывалю, аб якім гутарка ў асобным артыкуле.

Перад Фэстывалям, аднак, 14-га верасьня, завітаў да нас госьць з Бацькаўшчыны, а. ерадыякан Васіль Касьцюк, якога парахвіяне з радасьцяй віталі.

Пасьля ўдалага фэстывалю, з нагоды дня нараджэньня а. Ігара узноў беларускімі стравамі шчодра пачаставалі парахвіянаў сп-ва Зоя й Мікалай Вашкевічы ў нядзелю пасьля Пакроваў, 19-га кастрычніка.

Упадабаламу й паважанаму ўсімі айцу Ігару ўдзячнымі парахвіянамі быў падораны букет кветак і няраз было прапяянае "Дай, Божа, шмат год".

Гэтак, вось, у Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне йшло жыцьцё ў 2003-м годзе.

— · · · —

### ПАРКАВАНЬНЕ

Калі каля Сабору няма мейсца на паркаваньне, дзе ня трэба штo-поўгадзіны кідаць 25 ц. у лічнік, можна паставіць самаход на пастаўных палетках (parking lots) два кварталы далей па Bond st., управа й улева на Schermerhorn street, або ў гаражы на Livingston st. Цана ў нядзелю каля 5-ці даляраў.

# СЬВ. ПАМ. А. ПРАТАПРАСЬВІЦЕР ВАСІЛЬ КЕНДЫШ

*** 1908 - + 2003**

Адзін за адным адыходзяць працаўнікі на нацыянальнай ніве й змагары за незалежнасьць Бацькаўшчыны, што яшчэ пад польскім займом будзілі ў нашым народзе нацыянальную сьведамасьць і навагу на супраціў ашалелай палянізацыі ды, выпадкова ацалелыя ад загубы пад саветамі, у пору нямецкае акупацыі ўзноў уздымалі ў народзе пачуцьцё нацыянальнае годнасьці й баранілі яго ад акупанцкіх зьверстваў.

Тыя, што з Божае ласкі выратаваўшыся ад паўторнае савецкае сьмяротнае касавіцы, не зважаючы на цяжкія жыцьцёвыя ўмовы ў новым для іх сьвеце, працавалі на вызваленьне Бацькаўшчыны й ахвяроўвалі на гэтаю справу іхныя жыцьці.

Адным з апошніх зь іх 1-га кастрычніка г.г. адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. а. пратапрасьвіцер Васіль Кендыш.

Айцец Васіль Кендыш нарадзіўся 16-га сакавіка 1908-га г. ў сялянскай сям'і Мікалая й Юстыны Кендышаў, у вёсцы Чарапы, тады Слуцкага павету, Менскае губэрніі.

Пасьля 4-х клясавае расейскае школы, калі ягонае роднае сяло адыйшло ў 1920-м годзе пад Польшчу, пайшоў на навуку ў расейскую гімназыю, да закрыцьця якое скончыў тры клясы.

Далей вучыўся ў беларускай гімназыі ў Клецку, якую й скончыў у 1929-м г. ды ўсьлед прайшоў яшчэ курс вышэйшае тэхнічнае школы ў Вільні.

Разам з адукацыяй і беларуская справа заўсёды была дарагая ягонаму сэрцу й ён служыў ёй арганізуючы хоры, ды драматычныя гурткі й аб'яжджаючы зь імі ваколіцы.

Як ведама, нятолькі нацыянальнае, але й прыватнае жыцьцё беларусаў пад польскім займом было цяжкое, як духова, гэтак і эканамічна.

Дазнаў акупанцкае несправядлівасьці й малады Васіль Кендыш, доўга застаючыся бяз працы, або працуючы на кароткачасовых работах.

Давялося ўрэшце паехаць памагаць у прадпрыемстве, якое меў сваяк у Польшчы.

З пачаткам вайны ў 1939-м годзе ён вярнуўся дамоў і ў пору першае савецкае акупацыі працаваў настаўнікам у мясцовай сяміклясовай школе.

Настаўніцкую працу прадаўжаў у Стаўпецкім павеце й пры немцах, ды адначасна браў удзел у дзейнасьці Беларускае Самапомачы й у іншых праявах беларускага нацыянальнага жыцьця.

У гэтым часе ажаніўся з Марыяй Яськевіч.

У 1944-м годзе апынуўся зь сям'ёю ў Нямеччыне, дзе пасьля вайны стаў актыўным арганізатарам беларускага грамадзкага жыцьця ды ўдзельнікам узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Быў таксама настаўнікам у беларускай школе ў адным зь беларускіх уцякацкіх лягераў.

У верасьні 1949-га году пераехаў у Амэрыку, дзе сьпярша жывучы ў Нью Ёрку, а пасьля ў Нью Джэрсы ды ўрэшт у Масачусэтс быў дзейным працаўніком беларускіх арганізацыяў.

Памагаючы ў разбудове БАПЦ у беларускай дыяспары адчуў пакліканьне да сьвятарскае службы й пачаў да яе рыхтавацца.

Выверены ў дастатковасьці ведаў, быў сьв. пам. архіяпіскапам Васілём 10-га сьнежня 1967-га году ў Царкве Жыраўскае Іконы Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Н. Дж. усьвячаны ў сьвятарскую годнасьць.

Ад 1968-га да 1973-га году кіраваў парахвіяй БАПЦ у Гайлэнд Парку, Н. Дж., ды ўсьлед да 1981-га году быў кіраўнікОм парахвіі Катэдральна-га Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, кожны тыдзень праз усе гады даяжджаючы аўтобусам 150 міляў (240 км.) на адправы.

За прыкладную сьвятарскую службу быў адзначаны ўсімі духоўніцкімі ўзнагародамі з завяршэньнем іх годнасьцяй пратапрасьвіцера.

У 1972-м годзе на II-м саборы БАПЦ у Гайлэнд Парку, Н.Дж. быў выбраны на сакратара кансысторыі й, ня гледзячы на бясконцыя нястачы царкоўнага жыцьця ды ўрэшт шкодны раскол, выдатна выконваў ягоныя абавязкі ажно да адыходу на супачын у 1996-м годзе.

Вартае пераймањньня поўнае ахвярнае дзейнасьці на царкоўнай і нацыянальнай ніве жыцьцё айца Васіля Кендыша скончылася 1-га кастрычніка 2003-га г.

Пахавальны абрад у Царкве Сьв. Уладзімера УПЦ (Усяленскі Патрыярхат) у Гартфорд, Кан. адправіў мясцовы сьвятар, а. Якіў Нортон, з а. Вячаславам Логінам з парахвіі БАПЦ у Гайлэнд Парку, Н.Дж.

На выяў удзячнасьці за ахвярную службу а. Васіля пры ягонай дамавіне красаваліся кветкі ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава й Кансысторыі БАПЦ, а таксама ад Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Ад парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на паховінах былі сп-ні Ганна Войтэнка й Марыя Данілюк.

Цела нябожчыка пахаванае побач памерлае раней спадарожніцы ягонага жыцьця на могілках у Спрынгфілд, Масачусэтс.

Няхай-жа наш Збавец Ісус Хрыстос дасьць адыйшоўшай ад турботаў гэтага сьвету душы айца Васіля вечны супакой у пачэсным мейсцы ў раі, ягоным сваякам загоіць боль ад страты, а сярод нас і нашых нашчадкаў захавае па ім вечную памяць.

—— . . . ——

ЗАМЕСТ КВЕТАК НА МАГІЛУ А. ВАСІЛЯ

ахвяравалі
на Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага
Барыс і Марыя Данілюкі $ 50.00

# 3-ці БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

Ужо амаль трыццаць год як у канцы верасьня на галоўнай вуліцы перад нашым саборам адбываюцца вялікія кірмашы "Atlantic Antic".

Ладзіць іх мясцовая амэрыканская арганізацыя, што займаецца палепшаньнем і ўпрыгожаньнем блізкае да сабору часткі Брукліну.

Таму, што праз апошнія дзесяцігодзьдзі ў Брукліне асела шмат нацыянальнасьцяў з цэлага сьвету, кірмаш стаў міжнародным і на ім у процьмы гандляроў можна купіць тавары й стравы з усіх куткоў зямлі.

Апошнімі гадамі пачало большаць у Брукліне ды ў нашай парахвіі таксама й беларускіх эмігрантаў, што дало магчымасьць ужо ў 2000-м годзе з посьпехам прадаваць на кірмашы стравы нашае краёвае кухні.

Сёлетні кірмаш быў прызначаны на нядзелю, 29-га верасьня, і гэтым разам было пастаноўлена злучыць зь ім беларускі фэстываль, што ўжо пару разоў адбыўся асобна.

Дзень фэстывалю й кірмашу выпаў пагодны, дык ужо зранку на Сьв. Літургію, якую адправіў а. Ігар з а. ерадыяканам Васілём зыйшлося нямала маленьнікаў.

Тымчасам надоле ў кухні гатаваўся й грэўся дастатковы на сваю грамаду й на продаж на кірмашы запас ежы.

Пасьля поўдня, калі скончыліся адправы, маленьнікі й пазьнейшыя наведнікі фэстывалю падаліся ў парахвіяльную залю, дзе іх чакалі гатовыя стравы, за якімі давялося пастаяць крыху ў чарзе.







На верхнім здымку: сьпявае сп-ня Ліда Кано, на сярэднім: сьпявае сп-ня Рыма Пракопчык, на споднім: сьпяваюць Вольга Дзямешчык, Тацьцяна Дзямешчык і Настасься Стралец.

Перад саборам на вуліцы ля сталоў, дзе прадавалася нашая ежа, таксама стаяла чарга амэрыканскіх ахвотнікаў скаштаваць дранікаў, галубцоў і сырнікаў са сьмятанай.

Калі нашая грамада, што запоўніла ўсе месцы пры сталох у залі, крыху падмацавалася, пачаўся фэстывальны канцэрт, якім спраўна кіравала сп-ня Люба Чайка.

Пачала праграму сп-ня Ліна Сагановіч, прачытаўшы верш "Шчыра малюся".

Усьлед узыйшла на сцэну сп-ня Ліда Кано й пад аканіямэнт сп-ні Тацьцяны Дзямешчык прапяяла колькі песьняў, як беларускіх кампазытараў, гэтак і народных, за якія была ўзнагароджаная шчодрымі воплескамі.

Далей публіку чакала прыемная неспадзеўка, бо перад ёю ўпяршыню выступіла трыо ў складзе: Тацьцяны й Вольгі Дзямешчык, ды Настасьсі Стралец, што таксама прапяяла колькі беларускіх песьняў, выклікаючы агульнае захапленьне.

Сьледам сп-ня Рыма Пракопчык выдатна выканала дзьве песьні, зь якіх "Ручнікі" падсьпеўвала за ёю й публіка.

Пасьля яе, узноў пару песьняў прапяяла сп-ня Ліда Кано, за якою "Колькі ў небе зор" сьпявалі й усе прысутныя.

На заканчэньне канцэрту сп-чна Настасься Стралец на ўпадобу публікі прапяяла пару песьняў солё, а за ёю трыо яшчэ пару, за-

*(Працяг на 5-й бач.)*

# СУСТРЭЧА З АМЭРЫКАНСКІМ АМБАСАДАРАМ

23-га жнівеня г.г. у парахвіяльнай залі Царквы Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Н.Дж. адбылася сустрэча беларускага грамадзтва штатаў Нью Джэрсы й Нью Ёрку з навапрызначаным у Беларусь амэрыканскім амбасадарам сп. Джорджам Кролам.

Да сустрэчы загадзя была вялікая цікавасьць й таму заля была поўная.

З увагі на тое, што дачыненьне з амэрыканскай амбасадай у Менску й ейнае настаўленьне да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы вельмі важнае для абароны правоў нашае Царквы на Бацькаўшчыне, на сустрэчы былі прысутныя айцы Ігар Якунін і Вячаслаў Логін, а таксама некаторыя сябры Рады ды Кансысторыі БАПЦ.



На здымку зьлева ўправа: сп. Мікалай Вашкевіч, а. Ігар Якунін, Амбасадар Джордж Крол, а. Вячаслаў Логін.

Сп. Джордж Крол адразу здабыў сымпатыю прысутнае грамады зьвярнуўшыся да яе пабеларуску, часткова карыстаючыся беларускай мовай у ягонай прамове й адказваючы на пытаньні бяз перакладнікаў.

У ягонай прамове ён вылажыў асновы прыхільнае да дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі й дэмакрацыі, ды пашаны людзкіх правоў у ёй амэрыканскае палітыкі, якою ён будзе кіравацца ў ягонай дзейнасьці на становішчы амбасадара.

У адказах на пытаньні пасьля прамовы выявілася добрая знаёмасьць сп. Крола з сучаснай сытуацыяй у Беларусі й ягоная шчырая ымпатыя да Беларускага народу.

Духавенству й вернікам БАПЦ было радасна пачуць, што сп. Крол ведае розьніцу паміж запраўднай БАПЦ і фальсыфікатарамі, што карыстаючыся ейным імём былі здабыўшы ў амбасадзе шкодны для арыентацыі беларускіх вернікаў ў краі й амэрыканскага прэстыжу давер, ды падтрыманьне.

Сустрэча пакінула на прысутных вельмі прыемнае ды падбадзёрваючае ўражаньне й нямала зь іх, разьвітваючыся йз сп. Кролам, асабіста жадала яму ўдачы ў ягонай дыпляматычнай дзейнасьці.

* * *

## ФЭСТЫВАЛЬ (ПРАЦЯГ)

чыніўшы праграму вясёлым "Бывайце здаровы".

Пасьля канцэрту была багатая лятарэя, на якую шмат беларускіх народных вырабаў ахвяраваў сп. Аляксандар Сільвановіч, за што яму вялікі дзякуй.

На гэтым фэстываль скончыўся й прысутныя на ім, духова ды фізычна падмацаваныя побытам у родным асяродзьдзі, падаліся дамоў у штодзённасьць гасьціннага, ды не свайго краю.

Ня ўсім, аднак, быў ужо адпачынак - сп-ня Зоя Вашкевіч яшчэ доўга адна прадавала перад саборам беларускія стравы, пакуль яны не разыйшліся.

3-ці Беларускі Фэстываль быў вялікай удачай нашае беларускае грамады ў Брукліне й за гэтую ўдачу належыць глыбокая падзяка тым, што да яе прычыніліся, як нашым мілым артысткам: сп-ням Лідзе Кано, Рыме Пракопчык і трыо Тацьцяны й Вольгі Дзямешчык, ды Настасьці Стралец, таксама, ды ня менш нашым ахвярным гаспадыням, што прыгатавалі ежу, а гэта сп-ням: Алене Бараноўскай, Вікторыі, Ганьне Войтанка, Марыі Данілюк, Аляксандры Лістоўскай, Тацьцяне Красоўскай, на чале із сп-вам Зояй і Мікалаям Вашкевічамі, што папрацавалі найболей.

Заслужыў на падзяку й сп. Сяргей Капытка, што зрабіў выставу здымкаў "Белавеская пушча".

## ЗАПАЛЬВАНЬНЕ КАЛЯДНАЕ ЯЛІНКІ ПЕРАД САБОРАМ

Ужо колькі год амэрыканская грамадзкая арганізацыя Atlantic Avenue Development Corporation, што займаецца ўпарадкаваньнем і ўпрыгожаньнем вуліцы перад нашым саборам, у пачатку сьнежня ставіць у куце гародчыка перад ім калядную ялінку.

У вызначаны дзень каляровыя лямпачкі на ялінцы, пры зборы жыхараў блізкіх кварталаў, урачыста запальвае прадстаўнік меставае адміністрацыі Брукліну, пасьля чаго ў парахвіяльнай залі бывае пачастунак для прысутных і гульні вакол ялінкі, ды падарункі для дзяцей.

Сёлета гэткая ўрачыстасьць пачнецца а 6-й гадз. вечара ў чацьвер, 4-га студзеня.

Успомненая арганізацыя будзе з прыемнасьцяй вітаць парахвіянаў нашага сабору, што схочуць прыйсьці на ўрачыстасьць.

**НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ МЕСЬЦІНУ БАПЦ**

WWW. belaoc.com

**ДЫ АДГУКАЙЦЕСЯ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШТАЙ**

belautoc@yahoo.com

## ВІТАЕМ З СУЖЭНСТВАМ

У нядзелю, 12-га кастрычніка г.г. у нашым Саборы адбылося вянчэньне сп. **Мікалая Салянскага** йз сп-чняй **Вольгай Луцэвіч.**

Сьв. Тайніцу вянчэньня выканаў а. Ігар Якунін з прыслужбай а. ерадыякана Васіля Касьцюка.

Жадаем маладой пары Божага прыяньня на доўгі век у сямейным шчасьці й добрым здароўі, ды ў пацесе зь дзяцей і пашане ад людзей.

## БРЫЛЬЯНТАВЫЯ ЎГОДКІ

21-га лістапада будуць адзначаць 60-я, або брыльянтавыя ўгодкі іхнага шлюбу найстарэйшыя й найдаўнейшыя парахвіяне нашага Сабору, сп-ва **Марыя й Барыс Данілюкі**.

Сп-ва Данілюкі далучыліся да нашае парахвіі яшчэ на пачатку 1951-га году й дзейна падтрымоўвалі яе ўдзелам у царкоўным хоры, ды паслугай у адправах і гаспадарчых патрэбах у добрыя, ды цяжкія поры ў парахвіяльным жыцьці.

Іх не зьнеахвочвала туляньне па найманых памешканьнях у пачатных гадох існаваньня нашае парахвіі, ані вялізнасьць патрэбнага рамонту ў купленым будынку ў Брукліне - ужо больш як поўстагодзьдзя, амаль ў кожную нядзелю й сьвята яны ў царкве, ды не бязьдзейна, а заўсёды памагаюць у нейкіх бясконцых патрэбах.

Можа больш яшчэ яны робяць для нашае парахвіі й Царквы ўдома: сп. Барыс, як сакратар Парахвіяльнае Рады й Кансысторыі БАПЦ, ды рэдактар царкоўнага выдавецтва, а сп-ня Марыя, як дзейная сяброўка Парахвіяльнага Сястрынства.

Вітаючы гэтых заслужаных парахвіянаў нашага Сабору й вернікаў БАПЦ з рэдкімі ўгодкамі, ад усяе парахвіі дзякуем ім за іхную дзейнасьць, ды жадаем яшчэ шмат год у добрым здароўі цешыцца зь дзяцей, унукаў і праўнукаў ды, як дасюль, служыць Богу, Царкве й Бацькаўшчыне.

## ДЗЯКУЕМ ЗА АХВЯРНУЮ ПРАЦУ

Парахвія нашага Сабору, што была заснаваная хваляй пасьляваеннае беларускае эміграцыі, сёньня гуртуе новую хвалю эміграцыі з нашага краю - у абодвых выпадках людзей незаможных, ды гатовых памагчы іхнай сьвятыні нятолькі часткай малога заробку, але больш яшчэ ахвярнай працай.

Вялікую частку гэтае ахвярнае працы выконваюць нашыя парахвіянкі, за якую мы ўжо дзякавалі ім няраз пайменна раней і, спадзяемся, будзем яшчэ дзякаваць у будучыні.

Гэтым разам мы хочам горача падзякаваць за вялікую руплівасьць праз чысьціню ў нашай сьвятыні ды прыбіраньне ў ёй сп-ні **Надзеі Кірсон**, што нятолькі рэгулярна выконвае гэтую працу сама, але й ўмее зааахвоціць да яе й іншых.

Таксама моцна дзякуем сп-ні **Ганьне Войтанка**, што пашыла новыя амэрыканскі й беларускі сьцягі ў парахвіяльную залю.

Урэшце, не знаходзячы дастатковых словаў, каб выказаць нашую ўдзячнасьць, жадаем "вярні, Божа" сп. **Мікалаю Вашкевічу**, нятолькі за парахвіяльныя пачастункі, але й за вадаправодную й іншыя працы, што ён апошня зрабіў у нашым Саборы.

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ АБВЕШЧАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, ЦІ ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ, АБО СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ.**

**АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217**
(РОГ BOND STREET)
**TEL./FAX: N.Y. (718) 875-0595, N.J. (732) 868-1589**
ДАЕЗД ПАДЗЕМКАЙ ЦЯГНІКАМІ "A", "C", "G" ДА СПЫНКУ HOYT-SCHERMERHORN, АБО "2", "3", "4" ДА "NEVINS STREET",

**ПАВАЖАНЫЯ ПАРАХВІЯНЕ!**

**2003-ці ГОД ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА КАНЦА, А ЧАСТКА З ВАС ЯШЧЭ НЕ ЗАПЛАЦІЛА СКЛАДКІ НА ПАРАХВІЮ Ў СУМЕ $ 50.00.**
**БУДЗЬЦЕ ЛАСКАВЫЯ ЗАПЛАЦІЦЬ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ЯКНАЙХУТЧЭЙ, КАБ ПАРАХВІЯ ЗМАГЛА РАЗЬЛІЧЫЦЦА ЗА ЕЙНЫЯ СЬЦІПЛЫЯ, АЛЕ НЕАБХОДНЫЯ ВЫДАТКІ.**
**СКЛАДКІ ПРЫЙМАЕ СКАРБНІК ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ СП. ВІТАЛЬ МІХНОЎСКІ, АБО, У ВЫПАДКУ ЯГОНАЕ АДСУТНАСЬЦІ, СТАРШЫНЯ РАДЫ СП. РАСЬЦІСЛАЎ ГАРОШКА, КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ ПАСЬЛЯ СЬВ. ЛІТУРГІІ.**